# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 40 (1742) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК, 1 КАСТРЫЧНІКА 1989 г. Цана 100 зл.



*Прэм'ер-міністр ПНР Тадэуш Мазавецкі.*

„Польскай дзяржаве нельга быць ні ідэалагічнай, ні веравызнальнай дзяржавай. Павінна яна быць дзяржавай, у якой ніводзін грамадзянін не будзе дыскрымінавацца ці ўзнагароджвацца за светапогляд ці палітычныя перакананні.

У цяжкіх часах — а такія зараз перажываем — калі трэба звяртацца да найглыбейшых і найбольш высакародных людскіх пачуццяў, асабліва моцна адчуваем значэнне рэлігійных матывацый.

## ПОЛЬШЧА — АЙЧЫНА НЕ ТОЛЬКІ ПАЛЯКАЎ

Каталіцкі касцёл выконваў важную ролю ў працэсе вяртання народу і грамадзянам належных ім правоў, а таксама ў завязанні — у пераломных момантах — дыялогу паміж уладай і грамадствам.

Урад хоча супрацоўнічаць з Каталіцкім касцёлам і ўсімі іншымі веравызнаннямі ў Польшчы. Свабода веравызнання гэта натуральнае і неад'емнае права чалавека, а кожная спроба замаху на яго з'ўляецца ганебным актам.

Польшча з'ўляецца дзяржавай — айчынай — не толькі палякаў. Жывем на гэтай зямлі з прадстаўнікамі іншых нацый. Хочам, каб адчувалі сябе тут добра, каб культывавалі сваю мову, а сваёй культурай узбагачалі нашу супольную."

(З экспазе прэм'ер-міністра Тадэуша Мазавецкага ў Сейме 12 верася 1989 г.).

## ШТО РАБІЦЬ ДАЛЕЙ?

Мінулі выбары ў польскі парламент, маем новы ўрад у краіне, новую палітычную сітуацыю. Як у ёй быць беларусам? Ці далей спадзявацца, што нашыя нацыянальныя праблемы будуць вырашацца „ўгары"? Мінулыя сорак пяць гадоў нашага жыцця-быцця на Беласточчыне засведчылі, што спадзяванні такія не надта апраўдваліся. І так будзе далей, пакуль наш лёс будзем аддаваць у чужыя рукі. Пра нашыя справы мы можам і мы мусім гаварыць самі. І вырашаць іх самі. Галоўнае для нас цяпер — выбары ў органы тэрытарыяльнага самакіравання. Значная гаспадарчая і грамадская аўтанамізацыя мясцовых самаўрадаў — гэта і шанц для нас, беларусаў. Шанц на тое, каб выбраць нашых годных прадстаўнікоў, стварыць самастойную беларускую праграму нашага нацыянальнага адраджэння. Патрэбная нам еднасць і згуртаванасць. Патрэбны нам беларускі палітычна-грамадскі рух на Беласточчыне. У выбарах у парламент мы прадэманстравалі такую патрэбу. Беларусы Беласточчыны хочуць мець сваё палітычнае прадстаўніцтва. І трэба яго стварыць.

Апошнім часам узнікла ініцыятыўная група па стварэнні Беларускагра грамадскага камітэта „Грамада". У ім могуць знайсці месца ўсе тыя, якім неабыякавы лёс беларускага народа на Беласточчыне, неабыякавы лёс дэмакратызацыі нашага жыцця. Браты-беларусы! Ствараймa групы падтрымкі Беларускага грамадскага камітэта. Камітэт адкрыты для ўсіх, якія хочуць канструктыўна дзейнічаць, незалежна ад свайго светапогляду і перакананняў. Ніжэй змяшчаем дэкларацыю ініцыятыўнай групы:

### БЕЛАРУСЫ!

Агульны крызіс, у якім апынулася польскае грамадства, у яшчэ большай меры закрануў і нас. Віноўнікаў такога становішча шукаць цяпер дарма. Мусім глядзець у будучыню. Надзею, што будзе яна лепшай, нясуць дэмакратычныя перамены ў краіне і, перад усім, самаўрадавая рэформа. Шматвяко-



24 верасня 1988 года ў Кракаве, на Ракавіцкіх могілках, адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка на магіле аднаго з найвыдатнейшых беларускіх пісьменнікаў пачатку XX стагоддзя Алеся Гаруна. Помнік быў створаны энтузіястамі беларускай культуры ў Польскай Народнай Рэспубліцы, што адшукалі магілу песняра, арганізавалі збор сродкаў і пабудову помніка, падрыхтавалі вялікае інтэрнацыянальнае свята беларускай культуры, на якое прыбылі, акрамя гаспадароў — актывістаў Беларускага грамадска-культурнага таварыства — прадстаўнікі польскай грамадскасці, а таксама госці з Савецкай Беларусі і прыхільнікі беларушчыны з Англіі і нават з далёкай Аўстраліі.

Чым заслужыў Алесь Гарун такую памяць аб сабе і ўдзячнасць нашчадкаў? Якімі бачацца нам яго заслугі перад беларускім народам праз 70 гадоў з дня яго смерці і пасля таго, як яго імя амаль 6 дзесяцігоддзяў няшчадна выкрэслівалася з гісторыі нашай літаратуры і культуры?

Мала каму з пісьменнікаў выпаў на долю такі трагічны лёс, як Алесю Гаруну. Астрог, катарга, пасяленне ў Сібіры — усё гэта давялося зведаць яму ў маладым узросце, калі наперадзе ў яго маглі быць іншыя дарогі. Ён жа выбраў адну — найбольш небяспечную, але, як яму ўяўлялася, найбольш важную — дарогу рэвалюцыйнай барацьбы з самаўладствам, з сацыяльнай несправядлівасцю.

Усяго 20 гадоў было яму, калі ён застаўся адзін на адзін са сценамі, што яго акружалі, і пільнай астрожнай вартай. Адзін на адзін са сваімі думка-




мі, якія ў зняволенні сталі пераплаўляцца ў „радкі звінючых слоў". Адтуль яны ўжо ляцелі на волю, да родных, блізкіх, да свайго народа, якому паэт пасылаў словы праўды, словы веры, надзеі, любові. Ворагам працоўнага люду, прыгнятальнікам, крыўдзіцелям ён пасылаў праклёны.

Сапраўднае прозвішча Алеся Гаруна — Прушынскі Аляксандр Уладзіміравіч. Нарадзіўся ён 11 сакавіка 1887 г. у беднай сям'і чорнарабочага ў Мінску. Як піша Максім Гарэцкі, Алесь змалку вызначаўся сваімі здольнасцямі і ў пяцігадовым узросце навучыўся чытаць па-руску і па-польску. У дзяцінстве шмат гадоў праводзіў на вёсцы, і таму ён так добра ведаў жыццё і трывогі, пакуты і спадзяванні сялянства. У родным горадзе скончыў прыходскае вучылішча, а потым — трохгадовае рамесніцкае, пасля чаго працаваў сталяром у розных майстэрнях і на мэблевай фабрыцы ў Мінску. Пры гэтым настойліва і сістэматычна ўзбагачаў свае веды шляхам самаадукацыі.

У 1904 г. Алесь Гарун звязаў свой лёс з партыяй эсэраў і актыўна ўключыўся ў падпольную рэвалюцыйную дзейнасць. Як сведчыць М. Гарэцкі, А. Гарун вёў прапаганду „сярод мінскай вучнёўскай моладзі і работнікаў... Найлепей яму ўдавалася арганізаваць моладзь у вучнёўскія рэвалюцыйныя гурткі".

4 сакавіка 1907 г. ноччу яго арыштавалі ў падпольнай дру-

(Працяг на стар. 4)

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 362

## ДРЭВА КРАІНЫ

Расце няспынна
Дрэва краіны.
Адна галіна —
Białorusini.

Дрэва краіны
Без перабою
Квітнець павінна
З кожнай вясною.

Каб зноў увосень
Усім у хаты
Магло прыносіць
Свой плён багаты.

Калі ж галіна
Адна завяне —
Дрэва краіны
У хворым стане.

Таму, краіна,
Шануй заўсёды,
Усе галіны
З багатым плодам.

**Віктар Швед**

## АСІМІЛЯЦЫЯ

Мы ад свайго ўцякаем і ўцякаем,
Здаецца нам, што ўсе мы з горшай
гліны.
Хоць нас ніхто на сілу не
змушае —
Мы мовы выракаемся, айчыны.

Хаця няма ніякага прымусу,
Хаця ў краіне лёс усіх аднакі,
Не хочам аставацца беларусам,
Усе на сілу ціснемся ў палякі.

Імёны дзецям мы даем чужыя,
Каб шчасціла ім заўжды на
пасадзе.
І толькі прозвішчы пакуль яшчэ
старыя,
Ды прыдзе час — яны і ў гэтым
здрадзяць.

І з кожным днём усё нас меней,
меней,
У польскім моры расплываемся
няспынна.
І будзе згодным з праўдаю
сцвярджэнне,
Што Польшча — аднародная
краіна.

**Віктар Швед**

## РОДНЫ ДОМ

На ўзбярэжжы свету для вятроў
Свой родны дом я восенню пакінуў.
Цяпер у думках, песнях, вершах
Еду туды, да блізкіх сэрцу ніў,
Да хаты, дзе ў шпалерах дрэў
Заўжды птушыны чую спеў.
Іду туды, дзе будзіцца прадвесне
Каля крыніцы звонкай, студні
першай...

Толькі вось ноччу мані ў снах
Лісты трывожныя ўсё піша,
Што быццам вокны абняла
мятліца,
Што ў лузе высахла крыніца,
Што над старонкай роднай змоўклі
песні,
А камень увайшоў глыбока
ў сэрца!...

**Юрка Баена**

— * —

нэвысказаны буоль ідушчых
шукаўшых свого слова в
чужуом
чэрвоны танэць в жылах
в гуліцях і лабірынтах
жыце мое жыце города і тайны
як всё сплетаецьця і пронікае
в прозрачнум нэбі любві
колі тіха фаля подае тэбэ
піскові бэрэга
як рыбу здохлу мушлю
кусок кія зэрня бурштыну...
можэ так ворочаемось
нэзаміэтно бэз труб і барабана
нэ плач
— прыездэ сморкач
прывэзэ коко
заліэпіт око

— * —

што назвэш
— ужэ нэ твое
попоўнят як рыку
і вычэрпают
тут о собіэ заговорат
обсуждаўшы тэбэ
люстро омыют
можэ вымут з рамы
— выб'ют..........
всё на міэсьці.

**З. Сачко**

— * —

*Прараслі дзёрзкія галінкі рук тканку лісцяў майго дыхання.*
*Радаснай півоняй цвіту і млею ў чулых праменнях.*
*Лячу ў блакітны прастор, што звініць вясеннім смехам —*
*Нічыя — адарваная ад зямлі — у далоні тваёй прападаю.*

— * —

*Аліне і Юрку Леванеўскім*

*Голуба белага нясу да цябе на цёплай далоні.*
*Галубінае сэрца трапечацца пад адзеннем з пёрак шаўковых.*
*Іду асцярожна па ўсходах, якія пад дах нас вядуць,*
*пад дах, над якім снягі і вятры, сонцы і непагоды*
*павіснуць і плыць пажадаюць, безупынныя ў зменнасці.*
*А голуб крочыць паважна будзе з жонкай крыло ў крыло,*
*і тупат іх лапак пэўных і нам дабавіць упэўненасці,*
*бяспечнасці і веры, надзеі і любві.*

**Міра Лукша**



## ВЫПАДАК З КОСЦІКАМ

У торг на Пясках запыніў Косціка трохі знаёмы яму шанцоўнік з Млынавага завулка. Косціку не падабаўся ён за яго доўгі язык (даволі частая загана ў тых, хто любіць быць бездакорна апранутым). Загадаваўшы іспанскую бародку ды вусы, шанцоўнік прыпадобніўся ў нечым на дагледжанага, але чамусьці галоднага ката. І ступаць пачаў неяк па-кашэчаму, перамагаючы плебейскую качынасць (не служыў у войску?).

— Вітаю, вітаю, — ужо здалёку загаварыў да Косціка, крануўшы пальцам бераг свайго шырокага брыля жэстам, падгледжаным у каўбойскіх кінафільмах. — Як з найдаражэйшым здароўечкам у васпана?

— Кажы па-нашаму, хутчэй будзе, — даў яму адказ Косцік і сам збянтэжыўся, што сказаў яму „ты“ (здаралася з ім такое, калі беларус ціснуў на польскі лад).

Пасталі; адзін перад адным.

І ад гэтага пайшла дзіўная ім абодвум размова, у якую ні пра што істотнае не гаварылі ўголас.

— У палітыку залазіш, — не падараваў Косціку шанцоўнік, хоць і знізіўся да мужыцкай мудрасці ўсяго баяцца. Але парнуў, мабыць, глыбей: Косцік наскандаліў быў сваёй сястры за тое, што стала яна пярэвараткаю, каб пайсці замуж. Пры гэтым усякага нагаварыў матцы і бацьку, якія глядзелі на Вераніку не іначай, як на будучую бабу.

— Усё зводзіш да пруткай кішкі, — у такім жа тоне не змаўчаў Косцік. І хоць з іранінкай пазіраў ён на той загар у шанцоўніка, ад якога твар і шыя яго ў нечым нагадвалі спечаную цёртую кашу са скваркамі, аднак адчуў, што страчвае ўпэўненасць. Чаму гэта хлеб заядае душу? А чалавек — гэта перш за ўсё жывот?!

Шанцоўнік развёў рукамі і ўсміхнуўся так, што Косцік раптам зразумеў, куды ўваліўся. І бывае ж такое, што сам на сябе кпіну наклічаш ды анямела прымаеш яе, панурыўшыся, бы вінаваты перад судом! Шанцоўнік не спадзяваўся гэткай удачы, ён не імкнуўся да яе. Як бы здзіўлены такою непатрэбшчынай яму, ні ў чым не прыдатным тупіком Косціка, мог звычайна пайсці ад яго ды яшчэ і з узнятай галавою.

— Пабягу, ведаеш, па турэцкія кажухі: спекулянтак наз'язджалася з Варшавы, — сказаў з робленай занятасцю, як у таго, у каго няма большага клопату, чымсьці не прыпазніцца на абед дома. Гэтакія людзі без заядласці. Яны жывуць як быццам першабытнай маральнасцю — не браць для сябе вышэй патрэб.

Косціку ўраз стала брыдка за самога сябе. Гэтае пачуццё брыняла ў ім, бы аб'еўшыся недагатаванай фасоляй. Быў гэта той выпадак, калі нехта, каго ты не паважаеш, замест пакарыстацца нагодаю займець верх над табою і даканаць, узяў ды пашкадаваў цябе... Але Косцік, відаць, усвядоміў сабе нешта важнейшае, менавіта тое, што маючы праўду на сваім баку, сам паводзіць сябе бязлітасна.

Гэтае адкрыццё вельмі спужала яго!

**Сакрат Яновіч**

# ЦАРКВА У МАЛЕШАХ



ПОМНІКІ КУЛЬТУРЫ

Найраней друкаваная заметка аб вёсцы і двары ў Малешах паходзіць з 1540 года, а жыхары яе, даўнія баяры, ужо як каралеўскія мужыкі ў Бранскім старастве, суседуюць з вёскамі дробнай мазавецкай шляхты.

Паводле той жа крыніцы („Пісцовая кніга Гродненской Экономіі"), у 1563 г. „у вёсцы Малешы Свірыдскага войтаўства ідучы правым бокам „W tho siolo od Młodzianowa" жыве Сцяпан — поп (айцец) Малішэўскі, „ku cerkwy przy thim siele stoiacz wolne od plathu — 2 włoki".

Насельніцтва адрабляла паншчыну на фальварку Буйнова. Пасля шведскага наезду ў вёсцы засталіся толькі 3 мужыкі. Паводле пагалоўнага рэестра, у 1676 у вёсцы Малешы 49 асоб плаціць 90 злотых, а свяшчэннік — 8 злотых.

Сярод жыхароў пераказваецца аповесць, звязаная з каменем, які знаходзіўся яшчэ ў XIX ст. ва ўрочышчы Шаркова і называўся „Божай ступенькай". На ім відаць было адбітак левай чалавечай ступні, след палачкі і паўмесяца. Легенда гаворыць, што гэта след Багародзіцы, якая наведала гэтую старонку.

Найранейшы вобраз царквы паходзіць толькі з пачатку XVIII стагоддзя. У генеральным візіце з 1727 г. чытаем: „cerkiew pod tytułem Podwyższenia Krzyża w kolacji Jego Królewskiej Mości przy której zostaje prezentowany wielebny ojciec Stefan Szumikowski... cerkiew drewniana jeszcze nie stara pod dachem gątowym z kopułą jedną... cmentarz słabo ogrodzony... dzwonica na babińcu pod daszkiem gątowym". У прадстаўленым візіце, апрача абсталявання і прыладаў трэба ўспомніць аб набожных кнігах — пісаным Евангеллі, апраўленым у аксаміт і срэбра, друкаваным Апостале, друкаваным Віленскім вялікім служэбніку, пісаным Октоіху, пісаных Мінеях празнічных, пісаных Тріодіях абеіх, Трэбніку друку Мамоніча, друкаваным старым Псалтыры, друкаваных выкладах Галятоўскага. Сам прыход складаўся з вёсак: Малешы, Шпакі, Пугачы і Хаева.

З другой паловы XVIII ст. можам знайсці дакументы, якія датычаць спрэчкі за ворную зямлю між абшчынамі вёсак Шпакі і Малешы, баярамі і солтысам Бранскага староства, а Міхалам і Яннай з Хрэптовічаў Стражыцамі — пасэсарамі войтаўства ў вёсцы Малешы — узаемнымі істцамі і адказчыкамі. У 1790 г. у Малешах запісана 41 дым.

Пасля прылучэння уніятаў да праваслаўнай царквы ў 1839 г. у Малешах была маленькая царкоўка, а колькасць прыхаджан у 1847 г. налічвала 325 мужчын і 300 жанчын. Узнікла патрэба пабудовы новай царквы. У 60-х гадах XIX ст. Бельскі ўезды аддзел пабудовы праваслаўных цэркваў выдзяліў 3000 рублёў і даў дазвол царкоўнаму апякунству будаваць царкву гаспадарчым чынам. На такую суму грошай не было магчымасці распачаць пабудову і прыхаджане рашылі на пачатак пабудаваць цагельню. Давозілі гліну і штодзённа на працягу 2-х гадоў пры пабудове храма працавала 50 чалавек. У 1870 г. пабудова закончылася і 29 чэрвеня царква ап. Пятра і Паўла была пасвячана. Стаяла яна на скрыжаванні дарог. Старую царкву, у сярэдзіне вёскі, рашылі ў 1881 г. перанесці на могільнік. Абедзве гэтыя цэрквы былі аздобай малешаўскага прыхода, але лёс іх быў трагічны. Могільнікавая царква была разабрана, а прыхадская ў 1944 была ўзарваная.

Нягледзячы на цяжкую сітуацыю, якая склалася пасля II вайны (разбураная адна царква, другая разабраная, частковае эвакуіраванне насельніцтва ў БССР, падполле), прыхаджане рашылі ўзяцца за немалы труд — пабудову царквы на старажытным месцы. Пабожных і шчырых вернікаў, якія выцерпелі столькі паваенных кашмараў, пакут і бадзяння, не задавальняла згуртаванае рэлігійнае жыццё пры прыхадскім доме. З тагачасным настаяцелем, а. Антонам Зыбайлам, узяліся за працу. У 1954 г., у дзень ап. Пятра і Паўла, пасвяцілі новую царкву. Стала яна пасярод вёскі, агароджаная плотам з палявога камення. Наперакор пастаяннай міграцыі вясковага насельніцтва ў горад, дзякуючы шчырым прыхаджанам, у выглядзе царквы відаць іх дбаласць. Дзякуючы намаганням цяперашняга настаяцеля а. Васілія Негярэвіча пабудавалі мураваны прыхадскі дом, які пасвяцілі ў юбілейны год 1000-годдзя Хрышчэння Русі.

Р.С.



Прыхадскі дом у Малешах.

---

# КАРОТКІ АБРЫС БЕЛАРУСКАГА ПЫТАННЯ

ПАДРЫХТАВАЎ АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ

Распрацоўка, якую пачынаем публікаваць у „Ніве", мае выключны характар. Яе назоў у арыгінале гучыць: **Szab Generalny — Oddział II. L. ew. 3. Tylko do użytku służbowego. Krótki Zarys Zagadnienia Białoruskiego. Warszawa, dnia 31 stycznia 1928 r. На другой старонцы знаходзіцца паясненне: Referat opracowany na podstawie materiałów Oddział II Szt. Gen.** Аўтар або аўтары матэрыялу нам невядомы. Машынапіс распрацоўкі налічвае 426 старонак. „Кароткі абрыс беларускага пытання" напісаны па-польску.

Пачынаем друкаваць гэты дакумент таму, што прадстаўляе ён сабой выключную гістарычную каштоўнасць. Па сутнасці з'яўляецца ён палітычнай гісторыяй Беларусі ад яе пачатку да 1927 года, зразумела, гісторыяй не поўнай, але дасканала выясняючай многія белыя плямы.

Праўдападобна, дакумент апрацоўваўся яшчэ да майскага перавароту Пілсудскага. Аднак канчаткова яго формула ўзнікла ў пілсудчыкаўскім генеральным штабе. Факт гэты ў значнай ступені акрэсліў палітычнае вастрыё „Кароткага абрысу". Побач вялікай дозы аб'ектывізму, у матэрыяле выступае і суб'ектывістычная тэндэнцыя. Для прыкладу, аўтар або аўтары вельмі часта ўжываюць паняцце „бальшавіцкая акупацыя Беларусі", але ні разу гэтага тэрміну не адносяць да польскіх экспансіўных практык на тэрыторыі Беларусі. Нягледзячы на гэта, „Кароткі абрыс..." прадстаўляе велізарнае гістарычнае значэнне асабліва ў ілюстрацыі перыяду Кастрычніцкай рэвалюцыі і беларускага нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі. Знаходзім у ім вялікую колькасць малавядомых або ўвогуле невядомых фактаў, якія памагаюць рэканструяваць гісторыю Беларусі. Няма сумнення, што аўтар ці аўтары мелі доступ да архіўных паліцэйскіх матэрыялаў, да якіх мы часта да сёння доступу не маем.

У сувязі з тым, што друк цэласці дакумента заняў бы некалькі гадоў, будзем старацца рабіць пэўныя скарачэнні тых фрагментаў, якія маюць не першапланавае значэнне.

— ✳ —

## ЧАСТКА I

### Гістарычнае развіццё Беларусі

#### Раздзел .I

Абшар, які займалі плямёны, з якіх выводзяцца беларусы. Характарыстыка плямёнаў. Перыяд княстваў. Школьніцтва на Беларусі ў XVI і XVII стагоддзях. Рэлігійныя і нацыянальныя адносіны. Раздзелы Польшчы. Удзел беларусаў у польскіх паўстаннях. Сусветная вайна. Нямецкая акупацыя. Захоп Беларусі польскімі і бальшавіцкімі войскамі. Бальшавіцкая акупацыя. Рыжскі трактат і цэнтральная Літва.

Абшар, які сёння займаюць беларусы, у IX і X стагоддзях пасялялі рускія плямёны: 1) дрыгавічы — паміж Прыпяццю і Дзвіною, 2) крывічы — у верхнім цячэнні Дзвіны, Волгі, Дняпра і 3) радзімічы — над Сожам. Аб дагістарычным жыцці гэ-

# ЗОРКА

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


Пімен Панчанка




Сляды гарачыні
Яшчэ на тварах носім,
Ды паплылі ўжо дні
У залатую восень.

Самотны крык гусей
Даносіцца з-пад воблак.
У асмужанай красе
Твой бачу, восень, воблік.

Зямлі не адагрэць
Агнём ліствы апошняй,
І ветру песні пець
Над парыжэлай пожняй.

У хмарах далячынь,
Прасцяг дажджамі повен.
Не плавае ўначы
Маладзіковы човен.

Ды сціхне спеў вятроў,
Надвор'е праясніцца, —
Зямлі вільготнай зноў
Вясновы час прысніцца.

Блакіт нябёс тады
Празрысты, нібы ў маі.
Асеннія сады,
Як вогнішчы палаюць.



Ігар з Паўлікам. Фота Я. Максімюка.

Марыя Філіповіч




(З кнігі „Пра Алеся і яго сяброў")

Першага верасня Алесік пайшоў у школу. Ён надзеў новы касцюм, белую кашулю, абуў новенькія, аж блішчаць, чаравікі. Гэта быў ужо не гарэзахлапчук, а вучань першага класа Алесь Каваленак, сур'ёзны і заклапочаны.

І шчанюк Цюпка адразу адчуў гэту перамену. Ён ціха сядзеў пад крэслам, не зводзячы з сябра сумных вачэй, пакуль той чысціў зубы, апранаўся, перабіраў кніжкі ў партфелі.

Разам выйшлі з хаты. Алесік, з кветкамі ў руках, і мама ішла наперадзе, а Цюпка плёўся ззаду.

Нарэшце Алесік азірнуўся, і Цюпка, узрадаваны, кінуўся да яго.

— Ідзі назад, Цюпка, — строга загадаў хлопчык. — Цябе ў школу не пусцяць.

Цюпка спыніўся і вінавата апусціў галаву. А калі праз хвіліну хлопчык зноў азірнуўся, Цюпка ўсё гэтак жа трухаў услед.

— Дурненькі ты, Цюпка, — пагладзіў шчанюка Алесік. — У школу сабак не пускаюць. Разумееш?... Я хутка прыйду дамоў, і мы з табою зноў будзем гуляць. Вось пабачыш... — паабяцаў хлопчык.

Алесік пабег даганяць маці. А калі азірнуўся на павароце, убачыў на дарозе адзінокі руды камячок, і яму зрабілася шкада сябра.

(Працяг на стар. 10)

Андрэй Выдмінскі




Соні Квяткоўскай

Над ручаём, пад лесам, на казачнай планеце,
знаходзіцца той край, што невядомы дзецям.
Зусім там іншы свет, ад знойдзенага ў кніжках,
таму ўсё гэтае здзіўляць нас будзе крышку.

Чамусьці сонца там блакітны мае колер,
не свецяць зоры, дождж не ідзе ніколі.
Вецер не лётае, ён ездзіць на трамваі,
таму і бур няма ў тым незвычайным краі.
Выходзяць з-пад зямлі там дрэвы без карэнняў,
Крыніцы бурныя плывуць супраць цячэння,
Світанкі спаць кладуцца, будзіцца вечар ранкам,
там ночы смачныя, як торты, абаранкі.
Няма зусім зімы, што так марозіць дзетак,
ды толькі круглы год там лета ўсцяж і лета...

Дамы там не стаяць, ляжаць ім быццам трэба,
на дахах дзверы ў іх і сходы аж да неба.

Яблык квадратны там, агромністыя грушы,
з трубой, як у слана, і маюць нават вушы.
Слівы без костачак, і як шары тут вішні,
якімі дзеці лётаюць увішна.
Трускалкі на платах, суніцы на травінах,
да конавак пустых ускакваюць маліны.
Калі ўсе дзеці спяць, тады малыя гномы
лясныя ягады прыносяць ім дадому.

Ніхто не ловіць рыбы, грыбы пад руку ходзяць,
камарыкі ў футбол іграюць амаль штодзень.
Кветкі прыгожыя разносяць паху многа,
і лётае матыль без крыльцаў дапамогі.

А збожжа там само расце і зёрны меле,
і хлеб пячэцца сам ды булкі на нядзелю.
Тут не расце шпінат, тут малако без плеўкі,
не трэба зубы мыць, няма тут неспадзеўкі —
каб рана хтось будзіў, спі ўдоваль — калі ласка,
прачнуўся — радыё табе раскажа казку.
Ядуць там толькі носам, вусны ў іх — каб нюхаць,
вушамі там глядзяць, а вочы маюць слухаць.
Спіною ўперад там ідуць усе чагосьці
і кажуць „дзякую", калі даюць нам штосьці.
У магазіны штодзень бегаюць паяцы,
лялькі выконваюць дамашнія ўсе працы.
Мядзведзі з малпамі ды іншымі звярамі
там світары выконваюць пруткамі.
Прыносяць пісьманосцы замест лістоў цукеркі,
марожанае дзецям прыносяць на талерках.
Дзеці не ходзяць там, так як у нас, у школу,
лялькі падаркі дораць, а не святы Мікола.

Свінні кудахтаюць, куры квічуць, аж млосна,
Сабакі мяўкаюць, каты там брэшуць злосна.
На роліках ліс ездзіць, воўк лётае ў паветры,
Замест каб у лясных скрывацца недзе нетрах.
Іграюць галубы на скрыпках, пяюць качкі,
Пад музыку танцуюць рачкі-небарачкі.
На спінах лебедзі дзяцей маленькіх возяць,
Усюды весела, усюды так прыгожа!

Вядома, хочацца пабыць у гэтым краі
З казачнай назваю: Краіна Баю-Баю.

Аўтарызаваны пераклад з польскай мовы
Віктара Шведа

УДЗЕЛЬНІЦА КОНКУРСУ „БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ '89" ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ.



Эля Ваўранюк з Храбалаў. Фота Я. Чарнякевіч.

# КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 1) вучыць у школе, 8) літаратурны псеўданім беларускага паэта-„нашанійца", які нарадзіўся ў Гарадку на Беласточчыне, 9) робіць яе з шашкі, 10) снарад на твары, 11) полудзень, 12) прыродная мінеральная фарба жоўтага колеру, 14) спалучэнне гукаў у слове, 17) каменная глыба, 19) вакол хаты, 20) рама са струнамі, 21) перашкаджае добра бачыць, 23) пабітая цэгла, 25) памылковае ўяўленне, 26) напітак мангола, 28) выкліканы болем, 29) асаблівы шафёр.

**Уніз:** 1) тэкст на прадмеце, 2) умоўны знак, 3) участак зямлі ля хаты, 4) парадкавы лік, 5) вартасць у грошах, 6) жыве ў Сярэдняй Азіі і ў Паўночнай Афрыцы, 7) дошка над ручаём, 13) калючае пустазелле, 15) гаспадар пітнага дома, 16) насяленец-каланіст, 18) пасечаны зярняты, 19) беларускі... — пачаў яго Скарына, 22) старонка з крыжаванкай, 24) не адзін у Белавежскай пушчы, 27) тэнісны тэрмін.

„ядань"

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны дзве кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на міні-крыжаванку з № 33:** карак, мадам, Патап, казак, таз, род.

**Адказ на крыжаванку, змешчаную ў № 34.**

**Упоперак:** карэспандэнт, легенда, мяжа, брак, аптэка, квартэт, нявеста, трэнер, свет, Азія, аўтамат, бацькаўшчына.

**Уніз:** калгасніца, рогат, сіняк, араб, дама, нож, якут, аматарства, акт, ват, восі, рэтуш, немцы, вязь, тара, ЗША.

**Кніжныя ўзнагароды выйгралі:** Алена Кісялевіч з Мінска, Андрэй Дубіна з Брэста і Андрэй Коржыч з Малоткавіч.



# НАЎКА



# АФАРЫЗМЫ

Трэба ўстараніць са свету многа фальшывай пышнасці, таму што не згаджаецца яна са справядлівасцю.

*

Жывем у часах, у якіх культуры пагражае тое, што прападзе яна ад сродкаў культуры.

*

Як добра гучаць кепская музыка і кепскія аргументы, калі адпраўляюцца на непрыяцеля.

*

Вучоным, якія становяцца палітыкамі, найчасцей выпадае камічная роля: мусяць быць чыстым сумленнем палітыкі.

*

Фанатызм — гэта адзіная „сіла волі", якую таксама могуць дасягнуць слабыя і няпэўныя.

*

У нянавісці — страх.

*

Задавальненне ахоўвае нават ад прастуды. Ці калісьці прастудзілася жанчына, якая ведае, што яна прыгожа адзетая? — Прымаю выпадак, што яна ледзь-ледзь адзетая.

*

Маючы надта гучны голас у горле, немагчыма думаць аб тонкіх рэчах.

*

Ён мне не падабаецца. — Чаму? — Бо я да яго не раўняюся. — Ці ўжо хтосьці калісь так адказаў?

*

Многія ўпарта прытрымоўваюцца раз абранай дарогі, але толькі некаторыя паслядоўна імкнуцца да сваёй мэты.

**Фрыдрых Ніцшэ**

## ВЯЛІКАЕ ДЗЯКУЙ

Што і казаць, Весялухін — майстар на ўсе рукі. Ці тэлевізар наладзіць, ці кватэру адрамантавацць — зробіць так, што камар носа не падточыць. Не дзіўна, што дома ў яго ўсё зроблена на вышэйшым узроўні, усюды аўтаматыка, парадак.

Час ад часу ўмельца запрашаюць на дапамогу суседзі і знаёмыя. Весялухін заўсёды ахвотна згаджаецца — і прас адрэгулюе, і тэлефон установіць, і магнітафон адрамантуе... І ўсё робіць лёгка, весела, з жартамі — адно слова: справа майстра баіцца.

Калі суседзі спытаюць:

— Ну, што мы павінны вам за работу? — Весялухін жартаўліва адказвае:

— Ды што там! Свае ж людзі... Рубель мала, дзякуй — многа...

Гаспадары, вядома, пярэчаць:

— Ну што вы! Так дапамаглі, так выручылі...

Весялухін неахвотна бярэ тры ці пяць рублёў, не гледзячы мімаходам кладзе ў кішэню. Яму дзякуюць, і ён гаворыць:

— Калі ласка... І вам дзякуй.

Аднойчы папрасіла майстра — залатыя рукі паглядзець тэлевізар Нінель Сідараўна, суседка, што жыла на паверх вышэй.

— Нешта палосы бягуць, нічога не паказвае, — скардзілася яна.

— Паглядзім...

Праз некалькі дзён Весялухін зайшоў да Нінелі Сідараўны. Адрамантаваў і адрэгуляваў тэлевізар, як мае быць.

— Колькі вам за работу? — спытала Нінель Сідараўна, калі Весялухін закончыў усё і мыў рукі.

— Ну, рубель — мала, дзякуй — многа...

— Вы ведаеце... У мяне толькі вялікае дзякуй. У вас здачы не будзе?...

## СТЫМУЛ

Кожную раніцу цётка Броня „дзяўбла" свайму мужу Мікалаю:

— Трэба ўскапаць агарод... Лайдак, ускапай, нарэшце, грады!

Мікалай адмахваўся ад жонкі, як ад надакучлівай мухі:

— Паспею яшчэ... Заўтра. Ну, што ты прычапілася? Сказаў жа — заўтра ўскапаю!

Так мінаў дзень за днём.

... Аднойчы цётка Броня з раніцы хадзіла па неўскапаным агародзе і з заклапочаным выглядам калупала ў некаторых месцах зямлю ботам.

— Што ты там згубіла? — спытаў Мікалай.

— Куры, пачвары, усё перагрэблі...

— Ды чые сляды ты там шукаеш?

— Закапала дзесьці тут бутэльку віна. Ад цябе ж нідзе не схаваеш... Хацела аддаць дзеду Ігнату, каб ускапаў градкі. А куры ўсё перагрэблі, не магу знайсці тое месца.

Назаўтра ўранні Мікалай ужо завіхаўся з рыдлёўкай на агародзе.

А ўвечары ён раз'ятрана падступаў да жонкі:

— Дык дзе ж твая бутэлька? Дзе ты яе закапала?

— А божачкі, — успляснула рукамі цётка Броня. — Зусім зацьменне найшло! Гэта ж я не на агародзе закапала, а на полі, дзе бульбу будзем саджаць.

Раніцай наступнага дня Мікалай шыбаваў на калгасны двор прасіць у брыгадзіра каня, каб пасадзіць бульбу.

**Васіль Феранц**

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### ДЗЯЎЧЫНА МАЯ ЗАРУЧОНАЯ

(народная)

— Дзяўчына мая заручоная,
Чаго так ходзіш засмучоная?

— Як жа мне хадзіць ды вясёлай быць?
Каго любіла, дык трэба забыць.

Не плач, дзеўчына, будзеш ты мая,
Скора прыеду, жаніцца буду.





## КУМ ДА КУМА ЗАВІТАЎ

(народны жарт)

Адарваўшыся ад спраў,
Кум да кума завітаў.
І пра тое і пра гэта
Гаварылі дружбакі.
Закурылі цыгарэты —
Дыму коцяцца клубкі,
Зноў яны пагаварылі,
Зноў сумесна закурылі.
Гаспадар, удзячны дужа,
Сыпле макам залатым:
— Дзякуй, куме, дзякуй, дружа,
Што мяне наведаў ты.
Закуры яшчэ, браток,
Даражэнькі мой кумок.
Ты ж прыехаў бы з кумой...

Госць на гэта бровы хмурыць:
— А навошта ехаць ёй
Да цябе? Кума ж не курыць.

**Сямён Пацёмкін**




Аўтары часта роб... тыя ж самыя памылкі, што і іх героі.